# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№1 (236)

студзень 2022



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" (у працэсе ліквідацыі)

**МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ПРАЦЭСЕ ЛІКВІДАЦЫІ**

Ва ўмовах пандэміі COVID19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае працэс ліквідацыі, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома






ВЫЙНІКІ 2021

| | |
|---|---|
| 312 | імпрэз, арганізаваных беларускімі суполкамі ў ЗША |
| 31 | колькасць імпрэз, што прайшлі онлайн |
| 281 | колькасць імпрэз, што прайшлі офлайн |
| 21 | колькасць штатаў, у якіх прайшлі імпрэзы |

**ТОП 5 САМЫХ АКТЫЎНЫХ ШТАТАЎ**

1. Каліфорнія - 65 імпрэз
2. Ілінойз - 34 імпрэзы
3. Масачусэтс - 33 імпрэзы
4. Нью-Ёрк - 29
5. Пенсільванія - 21




**"БЕЛАРУСЫ ЗША. РАЗАМ ЛЯГЧЭЙ": справаздача**

З 2020-га ўзнялася хваля беларускага атывізму ня толькі ў Беларусі, але і ў ЗША. Мы не паспелі падлічыць колькі акцый салідарнасці, сустрэч суполак, ды пратэстных імпрэз адбылося за той год. Але ў 2021-м мы стараліся сачыць за падзеямі і заносіць іх у каляндар. Ніжэй прадстаўляем вам выйнікі падлікаў. Гэта колькасць тых імпрэз, што былі ўнесены ў каляндар, рэальная колькасць можа быць на 2-3% больш.

**Выйнікі па штатах:**

Каліфорнія – 65 імпрэз (самыя актыўныя суполкі – у Сан Францыска і Бэй Эрыі, Лас Анджэлесе, Сан Дыега і аб'яднанні гарадоў Орандж Каунці);

Ілінойз - 34 імпрэзы (самая актыўная суполка ў Чыкага);

Масачусэтс – 33 імпрэзы (самая актыўная суполка ў Бостане);

Нью-Ёрк – 29 імпрэз (Манхэтан і Бруклін – самыя актыўныя);

Пенсільванія – 21 імпрэза (Філадэльфія і Пітсбург – самыя актыўныя суполкі);

Флорыда – 15 імпрэз (самыя актыўныя Маямі, Джэксанвіл, Палм Коуст, Тампа, Санкт-Пецярбург);

Вашынгтон ДыСі – 15 імпрэз;

Вашынгтон – 15 імпрэз (у Сіэтлы – самая актыўная суполка);

Тэхас – 14 імпрэз (самыя актыўныя суполкі – у Осціне, Х'юстане і Даласе);

Паўночная Караліна – 10 імпрэз (самыя актыўныя жывуць побач з Шарлотам);

Арэгон – 9 імпрэз (самая актыўная суполка ў Портландзе);

Каларада – 4 імпрэзы (самыя актыўныя жывуць у Дэнверы);

Мінесота – 3 імпрэзы (самыя актыўныя ў Мінеапалісе);

У Гаваях, Нью Джэрзі, Арызоне, Мізуры, Мічыгане, і Нью Хэмпшыры прайшлі па 2 імпрэзы;

У Агаё і Індыяна па 1 імпрэзе.

навіны

# Яраслаў Іванюк: ІДУЦЬ ПЕРАМОВЫ ПРА ВЫДАННЕ БЕЛАРУСКІХ АЎТАРАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Напрыканцы мінулага года ў Польшчы выйшаў раман Уладзіміра Някляева "Гэй Бэн Гіном". Па-беларуску. Кніга імгненна была распрададзеная.

Выдавец, заснавальнік фонду kamunikat.org Яраслаў Іванюк распавёў пра поспех выдання, каго з беларускіх аўтараў і ў якім фармаце сёлета плануецца выдаць у Польшчы. А таксама, як на попыт на літаратуру паўплывалі грамадска-палітычныя падзеі ў Беларусі.

– Такога праекта яшчэ не было, каб выдаць у Польшчы кнігу па-беларуску такога вядомага пісьменніка, як Уладзімір Някляеў, і распрадаць амаль увесь тыраж падчас прэзентацый у польскіх гарадах і ў Вільні. Мы вырашылі заняцца гэтым праектам, бо кніга вартая, каб дайсці да чытачоў. Але выдаць у Беларусі яе было немагчыма па палітычных прычынах. Тым не менш, нам важна было, каб кніга дайшла да беларускага чытача.

Ёсць меркаванне, што цяпер у Польшчы каля 200 тысяч беларусаў, якія з'ехалі са сваёй краіны з палітычных ці эканамічных прычын, але найперш з палітычных . І мы зрабілі прэзентацыі ў гарадах, дзе беларускай дыяспары цяпер найбольш. Сустрэліся з беларусамі ў Кракаве, Уроцлаве, Лодзі, Гданьску, Беластоку, Познані, Варшаве, Бельску Падляскім, у Вільні.

Гэта важная кніга, варта было яе выдаць, і нашы спадзяванні апраўдаліся. Цяпер рыхтуем другі наклад.

На гэты поспех паўплываў той факт, што людзям, якія з'ехалі з палітычных прычын, важна заставацца ў беларускім жыцці. У многіх гарадах, якія мы наведалі, сустрэчы прайшлі з аншлагам. Людзі прыходзілі не толькі каб купіць кнігу, але каб і спытаць у Някляева, што рабіць далей. І добра, каб пісьменнікі не былі вымушаныя шукаць адказы на гэтае пытанне, а маглі толькі займацца сваёй творчасцю, пісаць кнігі.



Прэзентацыя рамана Уладзіміра Някляева ў Вільні

Яраслаў Іванюк распавёў, што яшчэ ў 2020 годзе да яго звярталіся беларускія пісьменнікі з прапановаю выдаць пэўныя творы. Тады сітуацыя выглядала інакш: былі пытанні, ці ўдасца гэтыя кнігі прывезці ў Беларусь.

Цяпер жа рэальнасць такая, што чытачоў шмат у Польшчы і лагістыкай дастаўкі ў Беларусь надрукаваных кнігі не трэба будзе займацца. Таму цяпер ідуць перамовы, і новыя кнігі будуць выдадзеныя.

Сёлета фонд kamunikat.org плануе выдаць некалькі аўдыёкніг. Ужо ёсць дамоўленасць з пісьменнікам Алесем Аркушам, заканчваюцца працы па начытцы рамана Андрэя Федарэнкі "Жэтон на метро" – гэта цікавы дэтэктыў.

Таксама Яраслаў Іванюк распавёў, што аднойчы ў аўдыёфармаце выйдзе і раман Уладзіміра Някляева "Гэй Бэн Гіном".

Дзіцячыя кнігі ў аўдыёфармаце выдаваць пакуль не плануецца, бо гэта асобная катэгорыя, якая вымагае дадатковых выдаткаў – гукаў, музыкі. Яраслаў Іванюк кажа, што выдавецтва засяродзіцца на папулярных сучасных творах для дарослых.

"Новы Час"

# У ЗНАК САЛІДАРНАСЦІ – НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУСКІ СЦЯГ З'ЯВІЎСЯ НА АКЦЫІ Ў КІЕВЕ



Актывістка Марыя Грыц вырашыла падтрымаць палітвязняў і іх сем'і і нанесла імёны затрыманых і асуджаных па палітычных матывах на белае палотнішча. Імёны пісала пасярэдзіне чырвонай фарбай. Атрымаўся бел-чырвона-белы сцяг.

Прозвішчы Марыя пісала ад рукі. Узгадала ўсіх, хто зведаў пераслед па палітычных матывах, пачынаючы з 1996 года.

"Калі я пісала імёны, то дзівілася, колькі сем'яў затрымана. Часта бачыла ў спісе сыноў і бацькоў, або мужа і жонку, браты былі. Ад гэтага сціскалася сэрца", – распавяла Марыя.

Яе падчас пратэстаў таксама затрымлівалі. Цяпер яна ў Кіеве. Пасля пераезду, кажа, перастала атрымліваць лісты ад палітвязняў.

"Таму пастаралася хоць так перадаць ім праменьчык падтрымкі. Можа, іх родныя ўбачаць гэты сцяг і адчуюць маю з імі салідарнасць", – адзначыла Марыя.

euroradio.fm

навіны

# БЕЛАРУСЫ-КАТАЛІКІ МАСКВЫ ЎШАНАВАЛІ 500-ГОДДЗЕ З ЧАСУ ВЫДАННЯ СКАРЫНАЎСКАГА МАЛІТОЎНІКА

15 студзеня ў кляштары францішканаў у Маскве айцец Пётр Карнелюк OFMConv узначаліў урачыстую цэлебрацыю святой Імшы ў гонар 500-годдзя выдання "Малой падарожнай кніжкі" Францішка Скарыны.

Як адзначаюць прадстаўнікі беларускай каталіцкай супольнасці ў расійскай сталіцы, кожны народ мае права маліцца на сваёй мове. Дзякуючы Скарыну такую магчымасць атрымалі і беларусы.

Хоць афіцыйна гэтая дата ў Расіі не адзначаецца, беларускія вернікі вырашылі не быць у баку ад гэтай важнай рэлігійна-духоўнай падзеі.

Каталікі расійскага сталічнага рэгіёну далучыліся да братоў па веры, якія удзельнічаюць у набажэнствах з гэтай нагоды ў гарадах і мястэчках Беларусі, Літвы, Чэхіі, Польшчы і Італіі.

Пасля набажэнства вернікі выслухалі рэферат парафіянкі пра жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны.

catholic.by



# У БАТУМІ ПАЧАЎ ПРАЦАВАЦЬ БЕЛАРУСКІ КЛУБ

У грузінскім Батумі 11 студзеня адбылася першая сустрэча сямейнага беларускага клуба. Арганізавала клуб Кася Панкевіч, якая ўжо некалькі месяцаў праводзіць заняткі гуртка беларускай мовы для дзяцей.

Са з'яўленнем клуба магчымасць далучыцца да беларускамоўнага асяродку ў Батумі атрымаюць не толькі дзеці, але і дарослыя.

На першую, арганізацыйную сустрэчу сабралася каля 30 чалавек – дзяцей і дарослых.

Плануецца, што ў межах клуба будуць працягвацца заняткі па беларускай мове для дзяцей. Паколькі прыйшло шмат дзяцей малодшага ўзросту, заняткі будуць арганізаваныя паралельна ў дзвюх групах: для дзетак 3-5 год і для старэйшых за 6 год. Пасля заняткаў дзеці змогуць разам бавіць час у вольным фармаце: пагуляць у настолкі, памаляваць, пачытаць, паляпіць з цеста, і, канечне, пагуляць у актыўныя гульні.

"Нас шмат, мы троху пазнаёміліся. Мы плануем заняткі для дзяцей асобна, і яны будуць складацца з розных частак. Будзе знаёмства з нейкай тэмай, на розныя ўзроўні, для малодшых робіцца нешта прасцейшае, старэйшым я стараюся падбіраць нейкія цікавосткі, якія яны не ведаюць. Гэта заўсёды можна знайсці. Нават для беларускамоўных сем'яў, дзе дзеці дасведчаныя, усё роўна можна знайсці штосьці новенькае і распавесці", – расказвае Кася Панкевіч.



Дарослыя ў межах клуба маюць выдатную пляцоўку для камунікацыі з землякамі. Падчас сустрэч можна будзе проста пагутарыць, пагуляць у настолкі, паразвучваць беларускія песні і танцы, правесці беларускія святы. Таксама можна праводзіць інфармацыйна-адукацыйныя сустрэчы на тэму беларускай мовы, гісторыі, культуры. У лютым арганізатары клуба плануюць арганізоўваць беларускія квізы для дзяцей і дарослых.

"Ідэя ў тым, каб у нас быў менавіта сямейны клуб, каб і бацькі маглі ў гэты час чымсьці пазаймацца. Чым дакладна займацца, можна вырашыць супольна", – гаворыць Кася Панкевіч.

Падчас першай сустрэчы ўсе ўдзельнікі знаёміліся адно з адным у гульнявой форме, каб цікава было не толькі дарослым, але і дзеткам.

Таксама адбыўся невялічкі майстар-клас па беларускіх народных танцах ад спадарыні Антаніны Маламы. Яна прыехала ў Батумі па запрашэнні знаёмай.

"Я прыехала сюды перазімаваць. Як я кажу, "у вырай". Танцамі я займаюся не прафесійна, і людзі здзіўляюцца, што я пайшла на пенсію і пайшла танцаваць, але мне пашчасціла, я трапіла ў рукі да выбітнага этнахарэографа Міколы Козенкі, – распавядае спадарыня Антаніна. – Гадоў 8, мабыць, займаюся. Выступалі, я была ў гурце "Гуда" адзін час. Мы ездзілі выступаць з гуртом, у фестывалях удзельнічала, нават і прызавыя месцы займалі".

Калі будуць запрашаць, спадарыня Антаніна гатовая і далей праводзіць заняткі па беларускіх танцах у Батумі: "Адзін майстар-клас ужо быў. Калі мы рыхталіся да Каляды, сустракаліся. Нам так спадабалася. І людзі хацелі б збірацца і далей. Калі людзі захочуць, то я ахвотна буду паказваць".

З малымі дзецьмі, калі яны раптам не захочуць быць на занятках гуртка, будзе займацца спадарыня Ірына. Яна па адукацыі юрыст і не працавала ў сферы адукацыі, але выдатна ладзіць з дзецьмі, што было добра заўважна ўжо з першай сустрэчы.

"У Грузіі нам цяжка з нашым менталітэтам і не хапае камунікацыі з беларусамі. Добра, што з'яўляюцца такія ініцыятывы, – гаворыць Ірына. – Так склалася, што ў Беларусі ў мяне 8 хрэснікаў, і таму я сябрую з дзецьмі. У мяне мама – настаўніца, я так прывыкла, што дзеці заўсёды былі ў маім жыцці".

Ужо зараз у беларускім клубе створана невялікая бібліятэка беларускамоўных дзіцячых кніг. Іх можна пачытаць на месцы або ўзяць з сабой за сімвалічную плату ці ўзамен пакінуць сваю кнігу. А ў найбліжэйшай будучыні плануецца таксама стварэнне бібліятэчкі беларускіх кніг і часопісаў для дарослых.

Сустрэчы клуба будуць праходзіць двойчы на тыдзень (па аўторках і чацвяргах) з 18-ай да 20ай гадзіны.

Для запісу на заняткі і па падрабязную інфармацыю можна звяртацца ў суполку "Беларускі клуб у Батумі" ў Тэлеграме.

ПТ, budzma.org

навіны

# БЕЛАРУСЫ СТВАРЫЛІ ВОЛЬНУЮ ПРАСТОРУ Ў ТБІЛІСІ

У грузінскай сталіцы Тбілісі, дзякуючы намаганням беларусаў, паўстала бьюці-каворкінг прастора, якая мае назву "Артэміда".




Адным з яе стваральнікаў стаў прадпрымальнік з Мінска Ігар Смірноў, які быў вымушаны пакінуць Беларусь:

– У Мінску мы два гады думалі над ідэяй стварыць падобную прастору, каб яна працавала. У мяне жонка робіць хэндмэйд-упрыгожанні, сувеніры, аксесуары. І мы хацелі гэта запусціць у Мінску. Таму, калі сюды прыехалі, гэтая ідэя ўжо была адпрацаваная.

Паводле словў Ігара, прастора будзе таксама накіравана на тое, каб беларусы змаглі дапамагаць сваім досведам:

– Два паверхі, там 14 працоўных месцаў. Там ёсць цырульня, кабінеты для манікюру, педыкюру, для візажыстаў, майстраў па бровах . Пры гэтым на другім паверсе ёсць тыпу лекцыйная зала. Мы плануем там арганізоўваць майстар-класы, навучанне, фотасесіі. Мы хочам прыцягнуць беларусаў, якія прыехалі сюды так, як мы. Адпаведна, калі сярод беларускай дыяспары ёсць майстры, якія гатовыя навучаць, праводзіць нейкія майстар-класы ці яшчэ штонебудзь, мы гатовыя гэтую пляцоўку пашыраць для падтрымкі.

Прастора актыўна пачне працаваць ужо ў найбліжэйшы тыдзень, у ёй можна будзе праводзіць сустрэчы рознай накіраванасці, у тым ліку лекцыі і спатканні.

"Радыё Рацыя"

# АКЦЫЯ Ў БЕЛАСТОКУ: НАПІШЫ ЛІСТ ПАЛІТВЯЗНЮ

Як мінімум 50 паштовак беларускім палітычным зняволеным падпісалі 23 студзеня прадстаўнікі беларускай дыяспары.




Акцыя адбылася ў прасторы для беларускіх журналістаў у Беластоку, кажа кіраўнік каворкінгу Руслан Кулевіч:

– Да нас звярнуліся прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Беластоку і прапанавалі зрабіць такую акцыю. Мы не адмовіліся, бо мы лічым, што трэба дапамагаць палітвязням як можна. Напрыклад, мы тыдзень таму на адкрыцці каворкінгу рабілі акцыю: "Напішы ліст да журналіста-палітвязня". Зараз пішуць прадстаўнікі дыяспары, пішуць тым палітвязням, якія не журналісты. Гэта амаль тысяча людзей. Я лічу, што трэба праводзіць такія акцыі. Гэта тое, што мы можам зараз рабіць для падтрымкі нашых беларусаў.

Прадстаўніца беларускай дыяспары распавяла, як выбіралі тых, каму пісаць паштоўкі.

– Гэта самы просты спосаб выказаць нашу салідарнасць, але таксама ён адзін з самых важных. Тыя палітзняволеныя, якія выходзяць і якія там знаходзяцца, не раз у сваіх лістах падкрэслівалі, як важна для іх мець такую падтрымку – атрымліваць лісты. Мы выбіралі адрасатаў такім чынам, каб былі людзі, пра якіх вядома, што яны атрымліваюць мала лістоў. Таксама трохі гарадзенскіх людзей, бо ў нас тут шмат гарадзенскіх і яны хацелі б напісаць сваім.

А пісалі не толькі гарадзенцам, у тым ліку журналісту Дзянісу Івашыну, але і Аляксею Кудзіну, Марыне Золатавай, Марыі Калеснікавай ды іншым менш вядомым палітвязням. Пасля паштоўкі будуць адпраўленыя ў Беларусь у турмы, ізалятары і калоніі, дзе ўтрымліваюць беларускіх палітычных зняволеных, якіх праваабаронцы налічылі на сёння 988 чалавек.

Антон Разумоўскі, Беларускае Радыё Рацыя

**навіны**

# АДКРЫЛАСЯ ПРАСТОРА ДЛЯ ЖУРНАЛІСТАЎ MEDIAPORTBELARUS У БЕЛАСТОКУ

Створана медыя MOST

Афіцыйнае адкрыццё адбылося 18 студзеня.

Пляцоўка MediaPortBelarus у Беластоку – гэта каворкінг для беларускіх журналістаў, якія апынуліся ў вымушанай эміграцыі.

Аўтары ідэі ставяць сабе задачу захаваць беларускую журналістыку і медыясупольнасць, дапамагчы журналістам і рэдакцыям пераадолець крызіс і працягнуць развіццё, удзельнічаць у фармаванні новага канкурэнтаздольнага медыйнага рынку Беларусі.

Журналісты з Беларусі, якія былі вымушаныя з’ехаць з краіны з прычыны палітычных рэпрэсій, папрасілі ўлады горада Беласток дапамагчы. Мэрыя пайшла насустрач і выдзеліла ў цэнтры Беластоку памяшканне плошчаю 72 квадратныя метры па мінімальных арэндных коштах.

За гэты час журналісты зрабілі там рамонт, адбылося ўрачыстае адкрыццё. Магчымасці пляцоўкі дазваляюць журналістам у выгнанні працаваць там, ёсць памяшканне для публічных мерапрыемстваў (майстаркласы, лекцыі, выставы, сустрэчы). Ёсць відэастудыя, дзе можна пісаць праграмы, інтэрв’ю.



Прамаўляе Руслан Кулевіч

У каворкінгу ўжо працуюць журналісты з розных гарадоў Беларусі: Гродна, Брэст, Маладзечна, Мінск, Магілёў, Глыбокае. Усе яны прадстаўляюць розныя беларускія рэдакцыі.

З 2022 года на базе каворкінгу ў журналістаў нарадзіўся новы медыяпраект пад назвай MOST, які расказвае пра падзеі на беларуска-польскай мяжы.

Задача новага медыя – стаць мостам паміж Беларуссю і Польшчай, Гродна і Беластокам.

Медыя MOST – гэта Telegram-канал і сайт. Матэрыялы будуць публікаваць на беларускай, рускай і, магчыма, на польскай мове.

“Тут сабралася шмат журналістаў з розных куткоў Беларусі, мяркуем, нешта з гэтага атрымаецца”, – гаворыць каардынатар каворкінгу ў Беластоку Руслан Кулевіч.

Каворкоркінг для беларускіх журналістаў адкрыўся дзякуючы падтрымцы ўладаў Беластоку, фондам Fundacja Linking Media і Fundacja Belarus in Focus, Асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы “Аб’яднаныя месмедыі”.

bajby.org

# Янка Сычэўскі: КАЛЯДАВАННЕ – ВАЖНЫ СТЫМУЛ РАЗВІЦЦЯ МЯСЦОВАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

16 снежня Беларускае грамадска-культурнае таварыства правяла 23-ыя Прэзентацыі калядных калектываў “Гвязда і калядка” ў Беластоку з удзелам дзяцей, моладзі і дарослых.

Пра захоўванне традыцыі калядавання на Беласточчыне распавёў намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень:

– Мы балелі, як кажуць, за нашых маладых калядоўшчыкаў, якія зараз пераймаюць гэтую традыцыю і ходзяць спяваюць калядкі па вёсках асабліва, таму што родам з вёскі і маладое пакаленне гэта падтрымлівае. Часам яшчэ сустракаюцца прыцаркоўныя нейкія, прыхадскія хоры, якія ходзяць калядуюць і збіраюць грошы на пэўныя парафіяльныя мэты.

Пра ролю калядавання ў мясцовых супольнасцях разважае старшыня БГКТ Янка Сычэўскі:

– На вёсцы калядуюць, але гэта ўжо вельмі такія сціплыя формы калядавання, таму што ходзяць толькі дзеці. Раней хадзілі дарослыя, моладзь хадзіла асобна, цяпер ужо няма такога звычаю, таму што на вёсцы засталіся сталыя або вельмі старыя людзі, якія проста не ў стане хадзіць калядаваць. Калі калядуюць, то ў сямейных кантэкстах. Гэта вельмі важны стымул развіцця культуры.

Агулам на 23-ых Прэзентацыях калядных калектываў “Гвязда і калядка” выступіла каля 30 калектываў. Яны пазыцыянуюць сябе транслятарамі беларускай традыцыі, праваслаўя і культуры памежжа.

“Радыё Рацыя”



навіны

# КАЛЯДНАЯ ВЕЧАРЫНА Ў САБОРЫ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

16 студзеня ў беларускім цэнтры пры саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасе 401 Atlantic Ave адбылася Калядная Вечарына. Яна прайшла з удзелам самага вядомага і таленавітага калядоўшчыка Сержука Доўгушава – спевака, фалькларыста, этна-музыкі, стваральніка "Спеўнага схода", удзельніка калектыву Vuraj, кіраўніка ўстановы "Этнатрадыцыя".



Усіх гасцей чакала цікавая праграма з каляднымі песнямі, танцамі і гульнямі, самых малодшых чакалі падарункі. Па традыцыі дзеткі падрыхтавалі вершы, танцы і песні для калядавання.

Арганізатарамі свята сталі Нью-Ёркскі аддзел БАЗА сумесна з Парафіяльнай Радай сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

На свята сабралася шмат гасцей, і што асабліва прыемна – было шмат дзетак!

Вечарыну ўрачыста адкрыў царкоўны хор Парафіяльнай Рады. Спевакі ўнеслі галоўны атрыбут свята – Калядную зорку і праспявалі калядныя гімны. Пасля да справы приступіў Сяржук Доўгушаў.

Разам з ім прысутныя дапамагалі Казе ачуняць і сабраць мех падарункаў. Мядзведзь рыкаў і лавіў удзельнікаў гульні. Калядны Казёл збіраў хлопцаў і дзяўчат на вяселле. Таксама не абышлося без жаніцьбы Цярэшкі, танцу "Ойра", бясконцых карагодаў і іншых традыцыйных народных забаў.

Усе госці засталіся вельмі задаволеныя. Вось, што распавёў адзін з удзельнікаў – Сяргей Шыманскі:

– Свята надта спадабалася. Мы першы раз на Калядках, але дакладана не апошні. Галоўнае, што вельмі спадабалася дзецям. Ды і ўвогуле трэба больш і часцей збірацца на такія мерапрыемствы!

Ірына Ярмалінская з Нью-Ёрка таксама падзялілася сваімі ўражаннямі:

– Мне вельмі спадабалася. Я прыйшла па "запал" і яго атрымала. Зараз выдатны настрой на ўвесь дзень! Сустрэла шмат знаёмых, і хацелася б, каб такі настрой заставаўся ў людзей як мага даўжэй, і тады на Зямлі ўсё будзе добра!

Ала Орса-Рамана, кіраўніца парафіяльнага хору:

– У мяне надзвычайныя ўражанні ад калядак! Мы хорам рыхтавалі больш багатую праграму, але ўмяшаўся ковід. У нейкі момант мы зусім хацелі адмовіцца ад выступу, але ўсё ж такі вырашылі паўдзельнічаць – і не шкадуем! Настрой – на вышыні! Таксама жадаю падзякаваць БАЗА, што зрабілі разам гэта мерапрыемства і так выдатна атрымалася нашае супрацоўніцтва. Ёсць жаданне працаваць разам і надалей. Таксама дзякую Сяргею Доўгушаву – ён зрабіў вельмі добрую справу!

Пра мерапрыемства выказалася і Аксана Пятрашка – старшыня Нью-Ёркскага аддзела БАЗА:

– У мяне ўражанні – супер. Было вельмі весела, прыйшло шмат дзяцей, моладзі, што вельмі натхняе і дае ўпэўненасць, што ў нас, у беларусаў, і нашай культуры будзе будучыня на амерыканскай зямлі. Вельмі спадабаліся конкурсы для дзяцей і дарослых. Шмат хто браў у іх ўдзел і ўсе былі задаволеныя. Выдатныя ўражанні!

Свае эмоцыі "па гарачых слядах" выказаў і галоўны ўдзельнік Калядак – Сяргей Доўгушаў:

– Мне вельмі спадабалася. У Брукліне сабралася шмат дзяцей. І таму свята адбылося – удалася правесці больш гульняў. Агулам вельмі пазітыўны і ўзнёслы калядны настрой. У царкве свая атмасфера, і таму атрымліваецца ладзіць асабліва выдатныя Каляды.

Усе ўдзельнікі Калядак пагадзіліся, што святкаванне выйшла як ніколі вясёлым і ўзнёслым.

Праз аднаго ўдзельнікі прапанавалі праводзіць такія мерапрыемствы як мага часцей. Вядома ж, што чым больш мы будзем збірацца разам, тым больш аб'яднаемся як адзіная беларуская сям'я, хоць і за тысячы кіламетраў ад родных хат, але ж не забыўшы свае карані, святы і традыцыі.

**Міхась Чаропка, БАЗА**

# АБРАД КАЛЯДАВАННЯ АД ДЗЯЦЕЙ НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛКІ БЕЛАРУСКІХ ТРАДЫЦЫЙ У БЕЛАСТОКУ




Беларуская дыяспара ў Беластоку 9 студзеня, у кавярні Беластоцкага лялечнага тэатра адзначала Каляды.

Калядоўшчыкамі выступілі дзеці, якія навучаюцца ў дзіцячай нядзельнай школцы беларускіх традыцый. Яны выканалі традыцыйны абрад калядавання пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы Юліі Собаль.

– Гэта дзеці з нашай беларускай дыяспары. Усе дзеці – беларусы. Я пісала сама сцэнар, штосьці з майго дзяцінства, нешта з інтэрнэту. Расказвала дзецям, што такое Каляды, як яны адзначаліся раней у нас на Радзіме, як гэта рабілі нашыя продкі. Песні падбіраліся менавіта такія, каб іх маглі праспяваць дзеці, таму што народныя спевы не лёгкія для выканання.

Цяпер дзеці з беларускай нядзельнай школкі будуць рыхтавацца да чарговага фальклорнага свята – Гукання вясны. Юлія Собаль паведаміла, што дзеці неўзабаве пачнуць развучваюць адпаведныя беларускія аўтэнтычныя песні.

**Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя**

**навіны**

# МЕСЯЦ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ПРОЙДЗЕ Ў ПОЛЬШЧЫ

19 студзеня 2022 года ў Аўстрыйскім доме культуры ў Варшаве быў прэзентаваны маштабны культурны праект па правядзенні з 6 чэрвеня па 7 ліпеня 2022 года Месяца беларускай культуры.




Месяц беларускай культуры ў Польшчы ставіць задачай падтрымаць рэпрэсаваных беларусаў творчых прафесій, якія знаходзяцца ў вымушанай эміграцыі.

Цягам месяца ў Варшаве і іншых гарадах Польшчы пройдуць беларускія канцэрты, выставы, кінапаказы, тэатральныя імпрэзы, літаратурныя вечары, перформансы, лекцыі і майстар-класы.

Адкрые Месяц беларускай культуры Міжнародная канферэнцыя "Беларуская культура ва ўмовах рэпрэсій і эміграцыі: выклік і магчымасці" з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў культуры еўрапейскіх краін, парламентаў і пасольстваў, міжнародных праваабарончых арганізацый, а таксама пацярпелых ад рэпрэсій беларускіх дзеячаў культуры.

Прадстаўлены праект Месяца культуры атрымаў падтрымку з боку прысутных прадстаўнікоў пасольстваў краін ЕС, ЗША, Швейцарыі і іншых краін, якія выказалі гатоўнасць выступіць яго партнёрамі.

budzma.org




# БЕЛАРУСКАЯ МАСТАЧКА ЯНА ШОСТАК СЯРОД ПЕРАМОЖЦАЎ ПОЛЬСКАГА КОНКУРСУ НА ПАШПАРТ "ПАЛІТЫКІ" ЗА 2021 ГОД

Сталі вядомыя прозвішчы пераможцаў польскага конкурсу на Пашпарт "Палітыкі" за 2021 год. У катэгорыі мастацтва перамагла гарадзенка Яна Шостак.

Пашпарты "Палітыкі" прысуджаюцца штогод дзеячам культуры ў Польшчы.

Гэта сімвалічны дакумент, які адкрывае мастакам дарогу ў свет, вылучае таленавітых аўтараў, якія перасякаюць межы ў мастацтве і даходзяць не толькі да айчыннай, а і да замежнай аўдыторыі.

На цырымоніі адкрыцця Яна Шостак з'явілася ў сукенцы з надрукаванымі фатаграфіямі 1200 беларускіх палітвязняў і замест падзякі прачытала ліст падтрымкі для іх сем'яў.

mostmedia.io

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2022 года

**1 лютага**
- 95 гадоў таму, у 1927-м, нарадзілася Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка), дзячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памерла ў 2005-м.

**2 лютага**
- 130 гадоў таму, у 1892-м, памёр Люцыян Крашэўскі, мастак, фатограф.
- 90 гадоў таму, у 1932-м, нарадзілася Людміла Махнюк (дзяв. Каліноўская), дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 2003-м.

**4 лютага**
- 65 гадоў таму, у 1957-м, памёр Браніслаў Ямант, мастак.

**5 лютага**
- 385 гадоў таму, у 1637-м, памёр Язэп Вельямін Руцкі, уніяцкі мітрапаліт.

**7 лютага**
- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Антон Сокал-Кутылоўскі, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання. Памёр у 1983-м.

**8 лютага**
- 135 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Уладзіслаў Талочка, рэлігійны дзеяч. Памёр у 1942-м.

**10 лютага**
- 140 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Францішак Умястоўскі, пісьменнік. Загінуў у 1940-м.

**11 лютага**
- 215 гадоў таму, у 1807-м, нарадзіўся Напалеон Орда, кампазітар, мастак. Памёр у 1883-м.

**12 лютага**
- 140 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Леў Дашкевіч, навуковец. Памёр у 1957-м.

**14 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Алесь Звонак, пісьменнік. Памёр у 1996-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Міхась Стральцоў, пісьменнік. Памёр у 1987-м.

**15 лютага**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Валянцін Рабкевіч, паэт. Памёр у 1995-м.

**17 лютага**
- 85 гадоў таму, у 1837-м, нарадзіўся Канстанцін Ельскі, заолаг. Памёр у 1896-м.

**22 лютага**
- 160 гадоў таму, у 1862-м, памёр Вікенці Дмахоўскі, жывапісец.

**23 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Станіслаў Станкевіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1980-м.

**24 лютага**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Янка Геніюш, доктар. Памёр у 1979-м.
- 100 гадоў таму, у 1922-м, памёр Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменнік.
- 50 гадоў таму, у 1972-м, памёр Алесь Вініцкі, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**27 лютага**
- 355 гадоў таму, у 1667-м, нарадзілася Людвіка Караліна Радзівіл, мецэнатка. Памерла ў 1659-м.


**Беларусы ў свеце**
№ 1 (236), студзень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"
(у працэсе ліквідацыі)

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў



Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27